


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 3 (210) ЛЮТЫ 2016 ГОДА

**БЕЛАРУСКАЕ ПАЖАДАННЕ**

**Каб доўгія гады жылі, каб здаровыя былі і на нас не забываліся!**

ФІНАНСАВЫ КРЫЗІС

## АМАЛЬ НЕ РАЗЛІЧВАЛІСЯ ПА КРЭДЫТАХ І ПАЗЫКАХ

**За 2015 год фінансавая пратэрмінаванасць у раёне вырасла па ўсіх пазіцыях. Пры гэтым пратэрмінаваная запазычанасць арганізацый раёна па крэдытах і пазыках вырасла больш, чым у пяць разоў.**

Нацыянальны статыстычны камітэт паведаміў аб выніках сацыяльна-эканамічнага развіцця раёнаў краіны за 2015 год. У Гарадоцкім раёне фінансавыя паказчыкі пагоршыліся па ўсіх накірунках. Найбольшае пагаршэнне адбылося з пратэрмінаванай запазычанасцю арганізацый раёна па крэдытах і пазыках, якая вырасла з 15,3 млрд. рублёў да 84,8 млрд. руб – у 5,5 раза. Гэта робіць праблематычным атрыманне чарговых крэдытаў і азначае амаль канчатковае вымыванне абаротных сродкаў арганізацый.

Тым больш, што за мінулы год прадпрыемствы раёна спрацавалі са стратамі на сябе аж на 135,9 млрд. рублёў пры адмоўнай рэнтабельнасці продаж у 4,5%. Гэтыя паказчыкі за мінулы год пагоршыліся ў два разы. Адпаведна колькасць стратных арганізацый павялічылася і дасягнула 47,6% ад агульнай колькасці даследуемых арганізацый.

На канец 2015 года арганізацыі раёна маюць пратэрмінаваную крэдыторскую запазычанасць у 339,9 млрд. руб, што амаль на 83 млрд. руб. больш, чым у 2014 годзе. Пры гэтым запазычнасць за паліўна-энергетычныя рэсурсы дасягнула 33,0 млрд. рублёў - яна вырасла больш чым у два разы.

Такія фінансавыя паказчыкі самыя горшыя сярод раёнаў ва ўсходняй частцы Віцебшчыны за выключэннем Шумілінскага раёна. У гэтым раёне стратнасць ад дзейнасці арганізацый дасягнула 80 млрд. рублёў і вырасла за год больш чым у 16 разоў, рэнтабельнасць прадаж у мінусе дасягнула 6,0%, пратэрмінаванасць за паліўна-энергетычныя рэсрсы вырасла ў два разы і дасягнула рэкордных для сельскіх раёнаў 130 млрд. рублёў. У выніку такой працы напрыканцы года у Шумілінскі раён быў прызначаны новы старшыня райвыканкаму.

У Гарадоцкім раёне замена старшыні райвыканкаму з Васіля Муранкова на Пятра Карабача, які атрымаў незайздросную спадчыну, нагадаем адбылася напрыканцы мінулага чэрвеня.

**Леанід Гаравы**

ПРЫВАТНЫ ГАНДАЛЬ

## РЫНАК НА ПАЛОВУ АДНАВІЎ СВАЮ ДЗЕЙНАСЦЬ

**На пачатку другога месяца 2016 года рынак Гарадоцкага райспажыўсаюза аднавіў працу на палове сваіх прамысловых месцаў. Але кошты за асобныя тавары выраслі на 30-100%, а асартымент зменшыўся**

На пачатку гэтага года ўступіў у дзеянне Указ №222 кіраўніка краіны аб наяўнасці абавязковай сэртыфікацыі тавараў адпаведна тэхнічнага рэгламенту Еўраазійскай супольнасці – Расія, Беларусь, Казахстан.

І толькі ў Беларусі ўлады пайшлі на тое, каб рэальна рэалізаваць патрабаванне тэхнічнага рэгламенту. У выніку беларускія індывідуальныя прадпрымальнікі, якія раней набывалі танныя рэчы ў Расіі, зараз не могуць гэта рабіць, бо на аптовых рынках Расіі не даюць сэртыфіката якасці тавара.

Кіраўніцтва краіны абяцала, што створыць аптовыя базы ў абласцях, дзе магчыма будзе набываць аналагічныя тавары з неабходнымі сэртыфікатамі. Але гэтыя абяцанкі, так і засталіся цацанкамі.

На пачатак лютага на рынку Гарадка павялічылася колькасць гандляроў, якія гандлююць зараз таварамі набытымі пераважна ў Менску.

Але кошты на большасць гэтых тавараў выраслі на 30-100%. Так кубак які раней каштаваў 90 000 тысяч рублёў, зараз каштуе 120 000 руб., а ніжняя жаночае адзенне пры ранейшым кошце ў 15 000 сёння стала каштаваць 30 000 руб.

Відавочна, што дзеянне Указа №222 балюча ўдарыла па індывідуальных прадпрымальнікаў, бо попыт на тавары значна зменшыўся пры новых коштах і ім усё складаней заплаціць высокую арэндную плату і адзіны падатак і што-та атрымаць у прыбытак. Але гэты указ стукае і па спажыўцах, якія пазбавіліся магчымасці набываць адносна таннае адзенне, абутак на рынках у правінцыі.

Па ўсяму бачна, як з асалодай заявіў кіраўнік краіны – мядовыя гады ў прадпрымальнікаў кончыліся. Дарэчы, як і ў кіраўніцтва Беларусі

**Леанід Гаравы**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

МІНІ-ФУТБОЛ

## ОПРЕДЕЛИЛАСЬ ФИНАЛЬНАЯ ЧЕТВЕРКА

**25 февраля состоялся последний матч предварительных игр по мини-футболу, который был перенес из-за возгорания проводки на ФОКе в этот понедельник. Лидировавшая после четырёх туров команда МЧС осталась за бортом финальной четверки.**

В зимние вечера три недели в физкультурно-оздоровительном комплексе по ул. Гагарина кипели футбольные страсти в борьбе за выход в финальную четверку. В результате упорной борьбы на первом месте оказалась команда "Водоканал", которая в последнем матче отобрала очень важные очки у МЧС, победив со счетом 6:5. Этот матч игрался последним из-за переноса игры с понедельника, когда возгорелась проводка в спортзале.

Второе место после предварительных игр у команды "Лосвидо", третье – "Ветераны", а четвертыми впервые за многие годы стала команда ДЮСШ. Именно лидер команды ДЮСШ Виктор Рудов стал лучшим бомбардиром предварительного турнира с 26 мячами, а вторым бомбардиром стал капитан команды "Ветеран" Сергей Куряков – 17 мячей.

На этой неделе состоятся финальные игры, которые выявят победителя зимнего турнира по мини-футболу.

График игр финального этапа:

29 февраля(понедельник).
17:45.Водоканал-Дюсш.
18:30.Лосвидо-Ветераны.
2 марта(среда).
17:45.Водоканал-Ветераны.
18:30.Лосвидо-Дюсш.
4 марта(пятница).
17:45. Ветераны-Дюсш.
18:30.Водоканал-Лосвидо.

**Л. Антонов**

ТРАНСПАРТНЫЯ ПАСЛУГІ

## НЕ ВЫЗНАЧАНА СТАЯНКА ДЛЯ ТАКСІ

**Гарадоцкі райвыканкам да гэтага часу ніякім чынам не спрыяе вызначэнню месца для стаянкі таксі ў мікрараёне аўтастанцыі. Наадварот апошнім часам з'явіўся дадатковы знак, які абмяжоўвае прыпынак аўтамашын каля рэдакцыі раёнкі.**

Да "Дажынак—2014" месца стаянкі мясцовых таксі была пляцоўка каля крамы "Авангард". Але пры рэканструкцыі аўтастанцыі праекціроўшчыкі такім чынам выклалі свой праект, што гэтая стаянка таксі ліквідавалася, як ліквідаваўся і пад'езд аўтамашын для разгрузкі тавара да трох крам.

У выніку трымальнікі таксі вымушаны былі перамясціцца на вуліцу Ленінскую – да крамы "Юна" і рэдакцыі раёнкі. Але на мінулым тыдні каля рэдакцыі з'явіўся знак "Прыпынак забаронены". Падобнае абмежаванне прыпынку транспарта плануецца зрабіць і каля крамы "Юна" – дзе яшчэ прыпыняюцца таксоўшчыкі.

Відавочна, што пытанне афіцыйнага прыпынку таксі ў Гарадку ужо "пераспела". У нашым райцэнтры афіцыйна дзейнічае больш дзесяці прыватных таксоўшчыкаў. Кожны месяц яны афіцыйна ўплачваюць у бюджэт, розным арганізацыям падаткаў, збораў каля чатырох мільёнаў рублёў. Адначасова з гэтым афіцыйнай працай утрымліваюць свае сем'і.

Але да гэтага часу не маюць месца для працы з пасажырамі і туляцца, дзе прыдзецца па вул. Ленінскай. На сёння адзіным прыдатным месцам для прыпынка таксі бачыцца пляцоўка каля культурна-асветніцкага цэнтра "Гарадок", дзе зараз вызначана месца для машын грамадзян з абмежаванымі магчымасцямі.

Зімой там спакойна паркуюцца машыны звычайных грамадзян. Летам заезду на пляцоўку перашкаджае бардзюр. Але праз невялікія ўкладанні магчыма зрабіць прымальны ўезд на гэты прыпынак, дзе варта паставіць знак "Стаянка таксі"

**Леанід Гаравы**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

БІЯТЛОН

# ДУБАРЭЗАВА ПАКАЗАЛА ДОБРЫ ВЫНІК У СПРЫНЦЕ

**Наша зямлячка Настасся Дубарэзва пасля амаль месячнага перапынку на чарговым этапе Кубка свету ў амерыканскім Прэск-Айле заняла 24-е месца ў спрынтарскай гонке. Лепшы вынік сярод беларускіх спартсменаў быў ва ўраджэнкі Сянно Ірыны Крыўко – 13-е месца.**

12 лютага спрынтарскімі гонкамі стартаваў восьмы этап Кубка свету па біятлону за акіянам у амерыканскім Прэск-Айле. Настасся Дубарэза апошнія ачкі ў залік Кубка свету атрымала 9 студзеня на 4-м этапе Кубка свету у спрынце у Рупольдынгу, дзе была 38-й. Потым у тым жа Рупольдынгу не здолела фінішыраваць у індывідуальнай гонцы.

І вось зараз удалы старт у спрынтарскай гонцы. Пры адным промаху на кожнай стральбе Дубарэзава заняла 23-е месца. Пасля гэта ў Настассі ў заліку Кубка свету стала 59-е месца пры 49 набраных ачках.

Лепшай з беларусак пры бездакорнай стральбе стала Ірына Крыўко (0 + 0), якая фінішавала на 13-м месцы. Расійскія легіянеры паказалі слабыя вынікі: Крысціна Ільчанка (1 + 2) стала 56-й, Марыя Панфілава (0 + 3) - 85-й. Гэта ставіць пад пытанне вынік ндзельнай эстафеты, бо дзяржава не здолела накіраваць за акіян паўнавартасную зборную з шасці чалавек.

Упэўненую жа перамогу ў спрынце на этапе Кубка свету па біятлоне ў амерыканскім Прэск-Айле атрымала чэская біятланістка Габрыэла Соўкалова, якая ўпэўнена лідзіруе ў Кубку свету. Соўкалова (0 + 0) на 17 секунд апярэдзіла амерыканку Сьюзан Данклі (0 + 0). Трэцяе месца заняла польская біятланістка Крысціна Гузік.

Сёння па выніках спрынту у 21.10 па нашаму часу пройдзе гонка пераследу. Жадаем поспеху нашай Настассі Дубарэзавай.

**Л. Антонаў**

ВУЧЭННІ

# У КАБІНЕЦЕ ФІЗІКІ АДБЫЎСЯ “ПАЖАР”

**У ДУА «Сярэдняя школа №1 г. Гарадка» сумесна з Гарадоцкім раённым аддзелам па надзвычайных сітуацыях прайшлі тактыка-спецыяльныя вучэнні па тэме «Тушэнне пажару і правядзенне выратавальных работ».**

Па тактычнай задуме пажар узнік у кабінеце фізікі, змешчаным на 3-м паверсе будынка. У выніку распаўсюджвання агню і моцнага задымлення стварылася пагроза жыццю дзяцей і персаналу. Спрацавала пажарная сігналізацыя, гардэробшчык паведамляе аб пажары па тэлефоне 101, дакладвае пра здарэньне дырэктару школы. Паатрыманні паведамлення дырэктар Смірнова Наталля Іванаўна хутка і выразна кіруе дзеяннямі добраахвотнай пажарнай дружыны. Арганізуецца сустрэча падраздзяленняў МНС.

Падводзячы вынікі праведзеных заняткаў намеснік начальніка Гарадоцкага РАНС па аператыўна-тактычнай рабоце аддзела па НС Сураўнёў Юры Пятровіч адзначыў: «Лічу праведзеныя вучэнні паспяховымі. Дзякуючы пісьменнаму кіраўніцтву і зладжаным дзеянням персаналу ўдалося прадухіліць паніку і правесці маштабную эвакуацыю людзей у нарматыўнае час. Ратавальнікі заўсёды гатовыя аказаць садзейнічанне ў правядзенні тактычных вучэнняў».

*(скарочана)*

**mchs.gov.by**

КРЫМІНАЛ

# ХЛОПЕЦ ЛЕДЗЬ НЕ ПАМЁР, АБАРАНЯЮЧЫ СЯБРОЎКУ

**Дзяўчына нанесла яму сур'ёзнае раненне нажом у жывот. Баючыся, што яе пасадзяць, малады чалавек вырашыў схаваць небяспечную траўму: «Гэта я сам - палез праз плот і на цвіку затрымаўся. Сам вінаваты ... »**

Абодва фігуранты жывуць у вёсцы. Беспрацоўны 35-гадовы вясковец злоўжывае спіртнымі напоямі, знаходзіцца на ўліку ў нарколага. Нельга назваць анёлам і дзяўчыну - раней яна прыцягвалася да адказнасці за бойку. Адносіны паміж сужыцелямі складваліся цікавым чынам. Дама прыходзіла ў госці толькі тады, калі кавалер быў цвярозым, калі не - начавала ў маці. Перыядычна паміж імі ўзнікалі сваркі.

Галоўная прычына - адносіны мужчыны з яшчэ не адбыўшайся цешчай. Залётнік крыўдзіўся, што ён дапамагае маці каханай, а тая гэтага не шануе. Гэтая крыўда выйшла вонкі і ў той трагічны дзень, калі здарылася няшчасце.

Канфлікт паміж закаханымі перарос у бойку. П'яны гаспадар стаў збіваць госцю. А калі тая паспрабавала ўцячы - дагнаў ў двары, прыцягнуў назад і стаў душыць. Падрабязнасці справы распавядае намеснік пракурора Гарадоцкага раёна Максім Зіновік:

- Жанчына (яна, дарэчы, па прафесіі кухонная рабочая) у выніку схапіла са стала нож з драўлянай дзяржальняй і нанесла ўдар у жывот суперніка. Пасля гэтага спалоханая зробленым, выбегла з хаты і басанож панеслася па вёсцы, паведамляючы ўсім на сваім шляху, што прырэзала аднаго. Прасіла выклікаць «хуткую». Аднавяскоўцы кінуліся ў двор - гаспадар у акрываўленай майцы сядзеў на ганку і паліў, на ўсе пытанні адказваў: у яго ўсё ў парадку. Своечасова падаспелі медыкі, якія і шпіталізавалі яго з дыягназам – колата-рэзаная рана брушной паражніны, пашкоджанне кішак, перытаніт. І хоць яго сяброўка нічога не хавала і выдала прыладу злачынства - нож, следчым давялося нямала папрацаваць, перш чым сам пацярпелы прызнаўся, хто яго парэзаў. Ён упарта сцвярджаў, што параніўся аб цвік, пералазячы праз плот. Вось толькі і цвік быў чыстым, і слядоў, якія вядуць да плота на снезе ў двары, аператыўнікі не знайшлі.

Зараз следчыя органы праводзяць праверку абставінаў таго, што адбылося, усталёўваюць ступень віны кожнага з удзельнікаў інцыдэнту. У жанчыны эксперты знайшлі шматлікія ўдары і сінякі на твары, целе, канечнасцях. У яе зламаны нос і засталіся сляды ад пальцаў чужых рук на шыі. Тым не менш, калі будзе доказана, што яна перавысіла межы неабходнай самаабароны, ёй будзе пагражаць да 2 гадоў пазбаўлення волі.

**Алена Бегунова**
**“СБ – сегодня”**

КАРУПЦЫЯ?...

# «ЯНА ДЫРЭКТАР АД БОГА!»

**У другой палове першага дня суду над былой «сэнатаркай» і экс-гендырэктарам Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі Ганнай Шарэйкай у суд прыехала больш за 20 супрацоўнікаў фабрыкі.**

У перапынку карэспандэнт Свабоды назіраў рэдкую для беларускага суду сытуацыю: шкляны «акварыюм», у якім трымаюць абвінавачаных, акружылі людзі, якія прысутнічалі ў судзе, і замест таго каб выканаць загад канваіраў «Ачысьціць памяшканьне!», пачалі актыўна размаўляць з Ганнай Шарэйкай.

Аказалася, гэта ў асноўным працаўнікі Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі. На адрас «сэнатаркі» гучала: «Трымайцеся!», «Мы вас не забылі», «Прыехалі, каб на вас паглядзець». Ганна Шарэйка дзякавала за падтрымку і ажно сьвяцілася, пасылаючы людзям усьмешкі і знакі рукой. У гэты момант міліцыянты-канваіры ня сталі перашкаджаць яе кантактам з былымі падначаленымі і стаялі моўчкі.

Пазьней у калідоры я спытаў у тых, хто кантактаваў з Ганнай Шарэйкай, чаму яе гэтак падтрымліваюць. Адказы былі такія: «Бо яна сапраўды выдатны кіраўнік, дырэктар ад бога, нездарма яе прызнавалі дырэктарам году».

А што цяпер? Як цяпер справы на Віцебскай птушкафабрыцы? Сваячка аднаго з абвінавачаных, якая не пажадала сябе называць, каб, як сказала, «не нашкодзіць»:

«Глядзіце самі. У той год, калі Ганну арыштавалі, фабрыка мела 120 мільярдаў рублёў прыбытку. Цяпер мае 45 мільярдаў стратаў, нават з выплатай заробку пачаліся праблемы».

Другі прысутны на працэсе таксама сказаў пра цяжкасьці з заробкам і згадаў такія лічбы:

«Калі Ганна Шарэйка прыйшла на гендырэктара, у год фабрыка давала 5 тысяч тон птушынага мяса, калі яе арыштавалі — давала ўжо 50 тон. А цяпер ледзь зарплату могуць плаціць, справы пагоршыліся, кіраўніцтву ўсім на ўсё плявацЬ».

Сваякі Ганны Шарэйкі, якія таксама прыехалі ў суд, каб яе падтрымаць, былі больш катэгарычныя. «Ганна не прызнае сябе вінаватай, і мы верым, што яна нічога ня крала. Яна жыла гэтай фабрыкай і ўсё для яе рабіла. А што дом сабе пабудавала, дык яна ж дырэктарам была, добра зарабляла. Але і вынікі яе працы выдатныя — фабрыка стала адной з найлепшых у галіне. Мы ня верым у тое, што на яе прыдумалі следчыя, і будзем яе да канца падтрымліваць. А я як ганарылася, гэтак і ганаруся ёю», — заявіла карэспандэнту Свабоды пляменьніца Ганны Шарэйкі Надзея.

Паводле сваякоў, цягам 1 году і 7 месяцаў з дня арышту Ганьне Шарэйцы не далі ніводнага спатканьня са сваякамі. Трымаюць яе на «Валадарцы», за гэты час яна зьмяніла некалькі камэраў.

У чым жа абвінавачваюць Ганну Шарэйку і яшчэ 6 яе падзельнікаў, у тым ліку грамадзяніна Літвы Вальдэмараса Норкуса?

Пракурор Мяцельскі, які пачаў зачытваць абвінаваўчае заключэньне, шмат разоў казаў пра «арганізаваную злачынную групу», якую, паводле сьледзтва, стварыла Шарэйка разам з Норкусам.

У злачынную групу, паводле сьледзтва, паступова былі ўцягнутыя іншыя абвінавачаныя, у тым ліку тры з чатырох намесьнікаў гендырэктара. Рабілася ўсё, каб на розных этапах забясьпечыць выкананьне злачыннай задумы аб незаконным узбагачэньні, казаў пракурор Мяцельскі. Адносна спадара Норкуса з вуснаў пракурора нават прагучаў выраз часоў камуністычнай прапаганды — аказваецца, ім кіравала «прага нажывы». Таксама пра Шарэйку і Норкуса было паведамлена, што яны шмат разоў езьдзілі за мяжу на адпачынак. Пракурор называў больш за 10 краінаў і вядомых курортаў, у тым ліку Канарскія выспы, Балі, Тайлянд, Італію ды іншыя месцы.

Фактычна пра кожнага зь іншых абвінавачаных пракурорам былі агалошаныя зьвесткі, што на фабрыцы ў іх працавалі сваякі. У каго сястра, у каго жонка або цётка. (Дарэчы, у пасёлку Вярхоўе пад Віцебскам бройлерная птушкафабрыка — фактычна адзінае прадпрыемства, з 1200 працаўнікоў там большасьць мясцовых, шмат, як казалі за тым жа камуністычным часам, працоўны дынастыяў).

Як, паводле пракурора, праводзілі свае «схемы незаконнага ўзбагачэньня» Ганна Шарэйка і яе падначаленыя?

Аказваецца, фірма «Роском-Р», якая рэгулярна прадавала камбікармы Віцебскай птушкафабрыцы, фактычна была пад кантролем Вальдэмараса Норкуса, а Ганна Шарэйка ды іншыя абвінавачаныя стварылі штучныя ўмовы для перамогі гэтай фірмы ў тэндэры на пастаўку кармоў. Дзеля гэтага нібыта «штучна заніжаліся кошты перавозкі кармоў» ды рабіліся іншыя захады, каб забясьпечыць перамогу фірмы на конкурсе.

Адзін з былых працаўнікоў птушкафабрыкі ў размове з карэспандэнтам Свабоды назваў гэтыя абвінавачаньні «неаб'ектыўнымі». Паводле яго, спэцыялісты фабрыкі знайшлі ў асобе фірмы «Роском-Р» пастаўшчыка якасных кармоў з дабаўкамі, якія давалі значныя перавагі ў параўнаньні з кармамі айчыннай вытворчасьці. «Для адмысловаў перавага замежных кармоў над нашымі была відавочная, і гэтым тлумачыцца ня толькі посьпех Ганны Шарэйкі ў бізнэсе, але і тое, што ў яе зьявіліся нядобразычліўцы на айчынным рынку», — мяркуе суразмоўца.

**Алег Грузьдзіловіч**
**“Радыё Свабода”**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ДЗІЎНЫЯ РЭВАЛЮЦЫІ

**Крызіс — гэта нармальны стан капіталістычнай эканомікі і дэмакратычных палітычных сістэм. Непрадказальнасць сітуацыі не пагражае ім разбурэннем, а выступае ў якасці абавязковай умовы развіцця.**

Передусім неабходна канкрэтызаваць паняцце «крызіс». Паводле Вікіпедыі, крызіс — гэта «стан, пры якім існуючыя сродкі дасягнення мэтаў робяцца неадэкватнымі, у выніку чаго ўзнікаюць непрадказальныя сітуацыі».

У межах беларускай мадэлі адзіным суб'ектам з'яўляецца ўлада. Толькі яна надзеленая правам і рэсурсамі для пастаноўкі публічных мэтаў і іх рэалізацыі. Мэтай улады з'яўляецца... утрыманне ўлады. Такая вось таўталогія.

Аўтар тэрміна «стваральнае разбурэнне» эканаміст Іосіф Шумпетэр галоўную прычыну крызісаў звязваў з залішняй колькасцю інавацый, засваенне якіх немагчымае без разбурэння састарэлых эканамічных структур. Крызіс і бярэ на сябе ролю разбуральніка старога. Аднак «наш крызіс» — гэта этап у развіцці «ўладнай вертыкалі», калі яна перастае адпавядаць зменлівым знешнім і ўнутраным выклікам. У выніку не толькі ўлада, але і грамадства спаўзаюць у хаос і смуту, якую ў нас прынята называць «рэвалюцыяй».

**Негатыўны адбор**

Арганізацыйны кампанент крызісу звязаны з неэфектыўнасцю, якая ўвесь час расце, а затым і з распадам кіраўнічых структур, у тым ліку і наноў узніклых. Яго вастрыня вызначаецца як знешнімі фактарамі (няўменнем рэагаваць на змененыя абставіны), так і ўнутранымі збоямі.

На сёння арганізацыйны кампанент, бадай, самы «прасунуты» — яго наяўнасць прызнае нават адзіны палітык (АП). У сваіх рашэннях АП прывык ісці «ад жыцця». А жыццё крута мяняецца. Непазбежнасць рэформ ужо выразна ўсвядомленая эканамічным блокам «уладнай вертыкалі», які ціснe на АП. І той вымушаны абараняцца. 26 студзеня АП у чарговы раз быў вымушаны растлумачыць, што «так званыя рэформы для сябе» будуць не толькі «адрынутыя народам», але і «дэстабілізу¬юць абстаноўку», «и тогда нам потребуется при потере управляемости (выдзелена. — С.Н.) возможно, и лица власти, денег гораздо больше, чем надо, допустим, сегодня для погашения внешнего заимствования».

Згода ўлады на рэформы — свядчанне яе смуты. У эканамічным блоку згода ўжо дасягнутая. Але АП не забыў шок, які ён перажыў у пачатку 90-х гадоў. Адсюль чапляннe за міфалагічны парадку і стабільнасці. Адсюль жа вера ў магчымасць з дапамогай ручнога кіравання (мадэрнізацыі кіравання) павысіць канкурэнта-здольнасць эканамічнага складніку беларускай мадэлі.

«Чыноўніцкая закасця-неласць, — тлумачыць Булдакоў, — спараджае не меншы дэструктыўны эфект. У пачатку XX стагоддзя, паводле ацэнак сучаснікаў, у вярхах сканцэнтравалася «ўся гама расійскіх бяздарнасцяў, дурняў, істэрыкаў і рабаўнікоў». Кіраўнічы крызіс «развітога сацыялізму» адлюстроўваў няздольнасць камбюракратыі і «чырвоных дырэктараў» абслугоўваць утопію інакш, чым пры дапамозе прыпісак і пазаэканамічнага прымусу».

Чыноўніцкая закасця-неласць — прамое следства негатыўнага адбору, які развіваецца ў неканкурэнтным асяроддзі. За мінулае стагоддзе істотных зрухаў у гэтым пытанні не адбылося. Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што адной з прычын, якая блакуе правядзенне рэформаў, памочнік прэзідэнта па эканоміцы Кірыл Руды на Кастрычніцкім эканамічным форуме назваў адсутнасць ва ўрадзе спецыялістаў з вопытам «працы ў рынкавых умовах»…

**Кожнай жанчыне — па мужыку**

Ахлакратыўны складнік крызісу не варта атаясамліваць з анархіяй. Яна звязаная з вылучэннем на першы план маргінальных элементаў, якія зыходзяць з ваяўніча-спажывецкіх установак. У гэты перыяд кіруе натоўп або адпаведныя стэрэатыпы паводзінаў.

Ахлакратыя праяўляе сябе ва ўмовах рэгрэсу калектыўнай псіхікі да архаічных адносін і дамінавання інфантыльных эмоцый на ўсіх сацыяльных узроўнях. Асабліва гэта заўважна ў кропках біфуркацыі, калі правадыры охласу задаюць і навязваюць мэты і спосаб паводзін усяму грамадству. Пры гэтым сувязь лідар—масы набывае спрошчаны «правадырскі» характар. На гэтай аснове ўзнікае адчуванне знітаванасці, якая здольная супрацьстаяць варожаму свету.

У 1917 годзе ахлакратыя найбольш яскрава праяўляла сябе праз палітычны лозунг: «Рабуй нарабаванае» і праз рост самасудных расправаў. Сучасны правадыр ахлакратыі ў Расіі — Уладзімір Жырыноўскі. Варта хаця б прыгадаць яго абяцанне даць кожнай жанчыне па мужыку, а кожнаму мужыку — па бутэльцы гарэлкі.

У 1994 годзе ў Беларусі маргінальныя элементы прадвызначылі вынік першых прэзідэнцкіх выбараў. Першыя выбары апынуліся і апошнімі. Спасылка АП на народ, што не прымае «так званыя рэформы для сябе», сведчыць пра актуальнасць ахлакратыўнай стадыі крызісу. Два дзесяцігоддзі яна знаходзілася ў адносна латэнтнай форме. Але сёння, мяркуючы па ўсім, гатовая зноў актывізавацца.

**Ламаць — не ствараць**

Рэкрэатыўны кампанент крызісу пераважае ў той момант, калі «чалавек натоўпу» зноў згаджаецца на ролю істоты, якой кіруе дзяржава. Пры гэтым актывізуецца псіхалагічны кампанент «уцёкаў ад свабоды». У найноўшай гісторыі Беларусі гэты кампанент канчаткова сфармаваўся пасля канстытуцыйнага рэферэндуму 1996 года. Ён стаў заключным акордам рэвалюцыйнай смуты і дазволіў умацавацца «дэспатычнай дэмакратыі». Кола замкнулася. «Дзяржаўнасць, — паводле трапнай заўвагі Булдакова, — адрадзілася з дапамогай традыцыі, якая супакоілася».

Паводле Маркса, рэвалюцыя — лакаматыў гісторыі. Аднак на нашых землях гэты лакаматыў усё мінулае стагоддзе бегаў па кругу. Дзіўныя атрымліваліся рэвалюцыі. Яны руйнавалі стары свет, але адбудаваць новы свет не здолелі. Безумоўна, нешта мянялася. Імператар, генеральны сакратар, прэзідэнт... Гэта ўсяго толькі формы непадкантрольнай грамадству ўлады.

Але праблема кантролю — гэта праблема грамадства. Рухаючай сілай буржуазных рэвалюцый было трэцяе саслоўе. Яно ўсведамляла свае інтарэсы, і дзеля іх рэалізацыі не мела патрэбы ў патэрналісцкай дзяржаве.

Беларуская апазіцыя традыцыйна канцэнтруе свае намаганні на задачы адхілення АП і наіўна мяркуе, што сам факт перамогі на выбарах здольны гарантаваць незваротнасць дэмакратычных пераўтва-рэнняў.

Досвед Украіны не пацвярджае такія спадзяванні.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**




НАШЫ ЧЫНОЎНІКІ

# СТРАШНАЕ ПРЫЗНАНЬНЕ ВІЦЭ-ПРЭМ'ЕРКІ КАЧАНАВАЙ

**Магчыма, сярод цяперашняй намэнклятуры яшчэ сустракаюцца такія, каго можна назваць беларускім чыноўнікам. Але ў абсалютнай масе яны да Беларусі дачыненьня ня маюць, бо ня ёй служаць, пра што і самі прызнаюцца з задавальненьнем – «мы люди государевы».**

Для іх не існуе Канстытуцыі, народа, іміджу краіны. Ты толькі слухаеш і абураешся – хіба так можна? Як ня сорамна! У грамадзкім месцы. Аказваецца, можна і ня сорамна.

Здаецца, першы заявіў пра зьмену грамадзкага ладу ў краіне міліцэйскі міністар Сівакоў: «Я человек государев». Ну, з аднаго боку, служба ў яго такая, а зь іншага – яго справа, пра сябе кажа.

Пасьля гэтую «фішку» паўтаралі многія. Думалася – іхная справа хамут на шыі насіць. Брак выхаваньня, адукацыі, культуры.

І вось днямі дагаварылася віцэ-прэм'ер Качанава. Новае ў трактоўцы – тое, што ўжо не пра сябе яна гэта сказала, а пра ўсіх: «Вы все государевы люди и должны понимать ситуацию в стране».

Адразу скажу, што «понимать» «государевы люди» нічога не «должны» па вызначэньні. Яны павінны «четко» выконваць каманды. Усё іншае сьведчыць пра дэфэкты пароды і прабелы ў дрэсуры.

«Государев» чалавек – супрацьлеглясьць чалавека вольнага. Раб.

Нехта ўспрыняў словы чыноўніцы як абразу, нехта як глупства, большасьць прапусьціла міма вушэй (усім кінулася ў вочы іншае – пра маленькую зарплату). Але глядзіце, які пазл склаўся.

У Беларусі ўсталяваная абсалютная манархія. Ёсьць «гасудар», які па-за крытыкай і па-за выбарамі-перавыбарамі. Ягонае жаданьне вышэй за Канстытуцыю і законы, ён вырашае – каго расстраляць, каго пасадзіць, каго памілаваць.

Ён пажыцьцёвы і, пра што ня раз заяўляў «жартам», улада ад яго пяройдзе сыну.

Скажаце, ну што за фэадалізм пасярод Эўропы ў 21 стагодзьдзі. Тым часам дэградацыя грамадзка-палітычнага ладу працягваецца. Дадайце да ўсяго пералічанага прывязку рабочых да прадпрыемстваў, «дармаедаў» і мноства іншага «законатворчага» ідыятызму і вы атрымаеце тыповае сярэднявечча на двары. Прычым вэктар дэградацыі адназначны: за фэадалізмам наступны прыпынак – рабаўладальніцкі лад. Вось ужо Сяргей Астраўцоў трапна параўноўвае Астравецкую АЭС зь пірамідай фараона, іншага сэнсу ў ёй няма.

Толькі ня сьмейцеся, мы ўжо з фэадалізму сьмяяліся…

Мы жывем у сярэдзіне вялікага абсурду, які імкліва набліжаецца да таго, каб стаць поўным. Прычым, гледзячы знутры, сыстэма можа і не выглядаць абсурднай (як для карэйцаў у КНДР) – толькі звонку ці вачыма вольнага чалавека.

У мяне няма сумневу, што сыстэма лясьне. Але чым пазьней, тым балючай. Бо ў філязофіі поўны абсурд зьяўляецца сынонімам немагчымага. Праўда, колькі яшчэ крыві папсуе «негосударевым» людзям абсурдная ўлада, пакуль дасягне сваёй немагчымай паўнаты…

**Сяргей Дубавец**
**www.svaboda.org**

БЕЛАРУСЬ – ЕС

# ЛУКАШЕНКО СБРОСИЛ САНКЦИИ ЕС

**За несколько часов до снятия санкций Евросоюза, в полдень 15 февраля, в двух сотнях метров от здания Администрации президента в Минске безнаказанно митинговали критики политики Александра Лукашенко. Так что в Брюсселе могли сказать: вот видите, элементы либерализации налицо!**

Впрочем, намерение поощрить белорусское руководство вызрело гораздо раньше. 15 февраля Совет ЕС, не продлив санкции в отношении 170 физических лиц и трех компаний из Беларуси, проштамповал решение, которое было уже секретом полишинеля. Не секрет и то, что почти полной отменой европейских санкций Минск вознагражден отнюдь не за демократизацию (при том что уступки западным требованиям были).

Перезагрузку отношений между Беларусью и Западом подтолкнул российско-украинский конфликт (хотя непродуктивность политики изоляции многим в Брюсселе стала очевидной и до того). Сегодня Москва расхлебывает кашу конфронтации с западным миром, Минск же, ближайший союзник Кремля, кует железо дипломатических побед, надеется конвертировать нормализацию отношений с ЕС и США в финансово-экономические выгоды.

**Мюнхен: Макей на коне**

Показателен контраст речей, с которыми выступили на днях на 52-й Мюнхенской конференции по вопросам безопасности российский премьер Дмитрий Медведев и глава белорусской дипломатии Владимир Макей.

Первый охарактеризовал нынешние отношения Москвы и НАТО так: «Мы скатились во время новой холодной войны». По его версии, виноват, понятное дело, Запад, сделавший, мол, из России страшилку.

Макей же, как сообщает пресс-служба его ведомства, делал акцент на необходимости восстановить полноценное сотрудничество между Беларусью и ЕС. И особенно хвалил мотор Евросоюза — Германию, которая, «нам кажется, понимает, какую роль играет Беларусь в нынешней ситуации». Что можно расшифровать так: немцы оценили нашу страну как донора стабильности в регионе.

У белорусского министра был в ФРГ целый каскад встреч, в том числе с тамошним коллегой Франком-Вальтером Штайнмайером, еврокомиссаром Йоханнесом Ханом. И все это выглядело как прелюдия к отмене санкций.

Кремлю такая перспектива пока не улыбается. На той же конференции в Мюнхене руководитель европейской дипломатии Федерика Могерини отметила, что санкции в отношении России следует сохранить, пока та не выполнит целиком минские договоренности (а в этом деле, как известно, еще конь не валялся).

**Вытащить Беларусь из российского силового поля: миссия невыполнима?**

Таким образом, после Крыма два похожих по природе авторитарных режима стали восприниматься Западом совершенно по-разному.

Нет, Лукашенко не добавил белорусам демократии. Разница выявилась в том, что Россия — империя, показавшая свой хватательный рефлекс, многогрешный же белорусский режим имперскими замашками не страдает.

Вдобавок действия путинских зеленых человечков на Украине заставили белорусское руководство примерить подобный сценарий на себя. Обострилась нужда в пространстве для геополитического маневра. Минск аккуратно дистанцировался, насколько мог, от агрессивной политики Москвы и, более того, сумел завоевать лавры миротворца.

Смягчением отношения, а в итоге — снятием санкций белорусскому руководству, цинично говоря, проплатили позицию в вопросах безопасности, крайне ценную для европейцев из-за страха перед российской угрозой.

Сверхзадача же — исподволь вытащить Беларусь из сверхмощного российского магнитного поля. Но тут проблема не только в неизбежном противодействии Кремля (который уже сегодня нервно посматривает на процесс нормализации отношений Минска с Западом), а и в самой архаично-грубой архитектуре белорусского режима, которая ну никак не вписывается в европейские представления о прекрасном…

**Поле для игры**

Оппозиция оценивает эту новую политику Брюсселя в основном кисло: мол, режим получит подпитку и додушит внутри страны все, что еще шевелится.

Однако пока мы видим, что Минск старается держать силовиков в рамках. В худшие времена заводил акции на Октябрьской площади повязали бы, не дав произнести пламенных речей. На этот же раз милиция скромно наблюдала издали и даже протоколов на штрафы, кажется, на составляла.

Давать отмашку на новый разгул репрессий после выхода из-под санкций было бы глупо: за что боролись? Белорусские власти надеются получить доступ к финансовым инструментам ЕС, его содействие во вступлении в ВТО, приток инвестиций. Да и с личностной точки зрения чиновникам приятнее разъезжать по Европе, чем чувствовать себя изгоями. Короче, Париж стоит мессы.

Польский министр иностранных дел Витольд Ващиковски назвал снятие санкций с белорусского режима «важным экспериментом». Да, он может сорваться, как сорвалась белорусско-европейская оттепель 2008—2010 годов. Но, во всяком случае, на сегодня есть поле для игры. И Брюсселю несомненно важно навязать белорусским властям некий вариант дорожной карты, побуждавшей бы пусть и по миллиметру, но проводить внутренние изменения.

Все познается в сравнении. Смоделируем иной вариант развития событий после Крыма: Беларусь одобряет его аннексию, размещает на своей территории российскую авиабазу, посылает своих летчиков в Сирию для демонстрации братства по оружию, по полной программе втягивается в холодную войну против НАТО. При этом Николай Статкевич, который сегодня выступал на Октябрьской площади, продолжал бы мотать срок, а сами такие акции душились бы на корню — терять-то в отношениях с Западом нечего!

С этой точки зрения нынешнее развитие событий во внешней да и во внутренней политике выглядит для Беларуси не наихудшим. Да, хочется всего и сразу, но политика — искусство возможного. Я считаю, что усиление связей с Европой по большому счету, с точки зрения исторической перспективы работает во благо нашей страны, ее независимости даже при теперешней малосимпатичной политической системе.

Менять же ее — дело самих белорусов. Глупо думать, что десант брюссельских бюрократов высадится здесь с авторучками наперевес для сражения за демократическое будущее синеокой республики.

**Александр Класковский**
**naviny.by**

У СУСЕДЗЯЎ

# НАШЫ Ў НЕВЕЛІ

**У Пскоўскую вобласьць беларусы зь віцебскага памежжа езьдзяць гандляваць «зь зямлі», хаваючыся ад паліцыі. А яшчэ — на працу, бо на расейскіх сьвінакомплексах пад Невелем добрыя заробкі, у адрозьненьне ад фэрмаў суседняй Гарадоччыны.**

Ад Віцебска да расейскага Невеля — трошкі болей за 100 км. Ад райцэнтра Гарадок, прыблізна роўнага зь Невелем па колькасьці насельніцтва, — амаль на палову меней. А ўжо ад мястэчка Езярышча на самым беларускім памежжы, дык увогуле 25 кілямэтраў. Гэтым і карыстаюцца мясцовыя жыхары, тлумачыць памежны страхоўшчык аўтамабіляў:

«Бачылі людзей на прыпынку? Гэта ў Расею едуць па макароны і алей, праз Езярышча раз на суткі ходзіць аўтобус. Але ў асноўным езьдзяць працаваць. На сьвінакомплексы ажно пад Вялікія Лукі. Там заробкі — ого-го, ня тое што на нашых фэрмах, дзе даярка ўзімку зарабляе 500 тысяч рублёў. Едуць і едуць, бо ні ў Гарадку, ні ў Езярышчы працы няма, усё да абуха дабіта!»

Населены пункт, які значна даўжэй быў горадам у складзе ВКЛ і Рэчы Паспалітай, чымсьці заштатным паселішчам у Расейскай імпэрыі, і які меў беларускую мінуўшчыну нават у складзе БССР — пакуль у сакавіку 1924 году не была скасаваная Віцебская губэрнія, частка якой — Вялікія, Себескі і Невельскі паветы — увайшла ў склад РСФСР.

Здаецца ж, тое было дужа даўно. Аднак першае ўражаньне ад Невеля, нібыта грамадзянская вайна і паваенная разруха яшчэ ня скончыліся. Побач з шашой — закінуты Дом культуры з выбітымі вокнамі, а за брамай зь сярпом і молатам зеўрае пустымі праёмамі нежылы будынак з чырвонай цэглы. І нарэшце першая прыкмета сучаснасьці: білборд са слоганам «ЛДПР за Псковскую область».

Вочы міжволі шукаюць хрэстаматыйных прыкметаў «старажытнага рускага горада». І знаходзяць — у афармленьні аўтобуснага прыпынку, аздобленага малюнкамі «сямі праваслаўных цэркваў, манастыра і адной капліцы». А таксама, як пісаў пра Невель напрыканцы 19-га стагодзьдзя віцебскі этнограф і краязнаўца Аляксандар Семянтоўскі, «аднаго мураванага касьцёла, дзевяці габрэйскіх школ, 3-х грабарных і 2-х цагляных заводаў».

З усяго пералічанага ў цэнтры сучаснага Невеля можна ўбачыць хіба што Сьвята-Троіцкі сабор. І якраз побач — кірмаш, куды беларусы едуць па танныя макароны і алей. Аднак часьцей прывозяць на продаж сваё — ад прадукцыі, вырашчанай на ўласным падворку, да «падпольнай» каўбасы.

Вёдры зь беларускай бульбай стаяць недалёка ад уваходу на кірмаш. Гаспадары размаўляць ня хочуць: больш як прызнаньня, што яны беларусы, зь іх ня выцягнуць. Аднак прадукцыя карыстаецца попытам: каля яшчэ адной машыны зь беларускімі нумарамі добрая чарга па бульбу і яблыкі. Хлопец-гандляр, не адрываючыся ад вагаў, кажа каротка і ёмiста: «Привожу, значиць выгадна!»

Але найвыгаднейшая для абодвух бакоў гандлю шукаць на кірмашы марна. Жыхары Невеля спачатку падазрона агледзяць цябе з галавы да ног і толькі пасьля употайкі махнуць рукой за плот: там прадаецца «падпольная» беларуская каўбаса, зь якой змагаецца мясцовая паліцыя.

«Так, паліцыя крыху ганяе. Але што нам застаецца рабіць, калі ў Беларусі працы няма, а жыць трэба? Грузім каўбасу, „згушчонку", сыр і на выходныя — сюды», — гаворыць гандлярка, паглядаючы па баках.

Пакупнікі дружна абураюцца: маўляў, ня трэба беларусаў ганяць, у іх дужа смачныя і каўбасы, і ўсё іншае. У супэрмаркетах «Магніт» або «Пяцёрачка» такога таннага ды смачнага нізавошта ня купіш. А што без санкніжкі ды іншых атрыбутаў законнага продажу — дык на гэта даўно ніхто не зважае.

Зрэшты, зь нядаўняга часу на кірмашы ў Невелі зьявілася афіцыйная крама «Продукты из Белоруссии». Уладальнікі гандлёвай кропкі — зь Віцебску, адтуль жа прыяжджае і гандлярка. У асартымэнце ж — прадукцыя ня толькі віцебскай вытворчасьці. Каўбасы, мяса, малочныя і кандытарскія вырабы — з розных рэгіёнаў. Пакупнікі задаволеныя, паўтараюць ужо пачутае раней «беларускія прадукты натуральныя» і «ваш Лукашэнка сочыць за якасьцю».

Што да рэчаўнай часткі невельскага кірмашу, то тут у асабліва буйных маштабах гандлююць адзеньнем «сэканд хэнд» з Эўропы. І — кажуць — попытам карыстаюцца зноў-такі беларускія тавары. Праўда, у краме «Продукты из Белоруссии», што побач з кірмашом, пакупнікоў амаль не было.

Прыметнік «беларускае» даўно стаў тут сынонімам «якаснае», калі вядзецца пра харчы або адзеньне. А вось пра заробкі ў Беларусі расейцы ў Невелі разважаюць са шкадобай.

«Хіба гэта грошы, што ў вас атрымліваюць? Дый беспрацоўе ў вас... Вось пачакайце, наш Пуцін набудуе сьвінакомплексаў. Ужо адзін збудавалі, дык там рабочыя атрымліваюць па 20 тысяч рублёў! У нас настаўнікі, і тыя маюць толькі каля 12 тысяч. Будзе праца і вам, беларусікі! Прыяжджайце! Ну і Лукашэнка ваш, канешне, маладзец! Мы яго ўсе любім. У вас паўсюль парадак,» — разважае спадар, паказваючы дарогу да невельскай адміністрацыі і цэнтру гарадка.

Адміністрацыя тут суседнічае з будынкам, дзе даўно і надзейна забітыя вокны. Калі зірнуць лявей, то ўбачыш помнік Леніну. За ягонай сьпінай — крама «Кооператор» зь вясёлкавай сымболікай. А сам праўдзір сусьветнага пралетарыяту выглядае драбнаватым падлеткам, ускочыўшым на неадпаведна вялікі пастамэнт. Ягоны позірк накіраваны ці то на кінатэатар «Ракета», дзе фільмы апошні раз паказвалі ў мінулым стагодзьдзі, ці то на абшарпаны бюст Пушкіна, прыткнуты ў скверыку за аўтобусным прыпынкам.

Пушкіна шкада: у свой час ён стаўся ахвярай царызму і быў сасланы ў пскоўскую глыбінку, а цяпер ягоныя нашчадкі шкадуюць для клясыка якаснага цэмэнту ды блакітнай фарбы. І пра паэзію, дзе «Пушкін — наша ўсё», ня згадваюць, — хваляць Лукашэнку і «падпольную» каўбасу, якую прывозяць у Расею беспрацоўныя беларусы.

**www.svaboda.org**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.02.2016 у 18.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.